

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Выходзіць з 1997 года.

# Газета Слонімская

№ 2 (2). Слонім. Чацвер, 15 траўня 1997г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт 1 500 рублёў


## АД РЭДАКЦЫІ

**Чытач, напэўна, заўважыць, што другі нумар «Газеты Слонімскай» надрукаваны не ў нашай гарадской друкарні, а ў Баранавіцкай. Атрымалася так, што для слонімскай газеты ў слонімскай друкарні не знайшлося «тэхнічных магутнасцяў». Хаця ўвесь тэхналагічны працэс друкавання аднаго нумару нашай газеты не займае і адной гадзіны. Магчыма, камусьці не спадабалася, што ў Слоніме з'явілася выданне, якое нікому не падпарадкоўваецца. Аднак газету мы робім не для пэўных асобаў альбо фракцый, а для Цябе, наш чытач. Ты наш галоўны крытык і суддзя. І нам прыемна, што пасля выхаду першага нумару мы знайшлі сваіх прыхільнікаў. Аб гэтым сведчаць тэлефонныя званкі і пісьмы людзей з віншаваннямі, прапановамі і пажаданнямі. Гэта нас натхняе і яшчэ раз пераконвае, што слонімцам патрэбна незалежная газета.**

**Мы ж у сваю чаргу будзем рабіць усё магчымае, каб не расчараваць чытачоў. У нашым рэдакцыйным партфелі значыцца шмат цікавых тэмаў, планаў і праектаў.**

**Нагадаем, што наступны нумар газеты выйдзе ў свет 29 траўня. У чэрвені выйдзе яшчэ два нумары, а ўжо з ліпеня нас можна будзе чытаць штотыдзень. На нашу газету можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні горада і раёна. КОШТ ПАДПІСКІ НА КВАРТАЛ СКЛАДАЕ ЎСЯГО 18 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ.**

**Рэдакцыя «Газеты Слонімскай»**

## НАВІНЫ

### ШУМІ «ЗЯЛЁНЫ ГАЙ»

**Гродзенскае абласное упраўленне юстыцыі зарэгістравала Слонімскае маладзёжнае гісторыка-асветніцкае таварыства «Зялёны гай».**

Асноўныя мэты арганізацыі: пашырэнне нацыянальнай свядомасці і грамадскай актыўнасці слонімскай моладзі ў вывучэнні гісторыі, культуры, звычаяў і традыцыяў свайго краю.

Першы праект, над якім працуюць сябры таварыства, — гэта збіранне дакументаў, успамінаў пра пасляваенкае маладзёжнае антысталінскае падполле ў Слоніме (1945–1947). Падрыхтаваныя матэрыялы мяркуецца апублікаваць асобным выданнем.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Як саўгас «Маладая гвардыя» гнаў спірт у Амерыку цыстэрнамі




*Малюнак Яўгена Іванова*

***Слонімскі аддзел падаткавых расследаванняў сканфіскаваў 51,8 тоны спірту на агульную суму 90.500 долараў ЗША.***

Гэты стратэгічны прадукт належыў замежным фірмам. А выпушчаны ён быў спіртзаводам саўгаса «Маладая гвардыя» (вёска Шылавічы). Як адзначаюць спецыялісты слонімскага вінзавода, які вымушаны перапрацоўваць сканфіскаваны спірт, саўгасны 90-градусны напой мае не вельмі высокую якасць. Тым не менш, высвятляецца, што шылавіцкім спіртам зацікавіліся нават у ЗША. У прыватнасці, амерыканская фірма «Трэйд Кансалтынг Сэрвіс», што прапісана ў горадзе Дуўр, нават заключыла з саўгасам дамову на выраб спірту з транспарціроўкай яго ў Злучаныя Штаты. Мусіць, там палічылі, што шылавіцкі спірытус прыйдзецца даспадобы каўбоям прэрыі Marlboro. Аднак амерыканцам спірт так і не давялося пакаштаваць. Супрацоўнікі падаткавых расследаванняў Слоніма ўстанавілі, што тавар з кляймом «Made in Šylavičy» беларуска-латышскую мяжу не перасякаў і ў Рыжскі порт разгрузкі не трапіў. Чаму? Тлумачыцца гэта вельмі проста.

Згодна Закону Беларусі «Аб акцызах» тавары (у тым ліку і спірт), якія прадаюцца за межы рэспублікі за валюту, вызваляюцца ад уплаты акцызных падаткаў. Такім чынам фірма «Трэйд Кансалтынг Сэрвіс» атрымлівала тавар па льготных цэнах, а на банкаўскі рахунак саўгаса «Маладая гвардыя» ішла валюта. На першы погляд здаецца, што ўсе павінны быць задаволеныя, у тым ліку і дзяржава, якая мае 50 працэнтаў валюты ад саўгаснай выручкі. Аднак калі супрацоўнікі аддзела падаткавых расследаванняў зацікавіліся амерыканцамі і сталі праводзіць праверку, то высветлілася, што такая фірма наогул не існуе. Усе дакументы на яе рэгістрацыю, перасячэння груза за мяжу і іншыя паперы былі падробленыя. Таму частку спірту (21,8 тон) на суму 30,5 тысяч долараў аддзел падаткавых расследаванняў арыштаваў, а пасля заканчэння следства сканфіскаваў. Астатні прадукт (56,2 тоны) «амерыканцы» паспелі рэалізаваць. Хутчэй за ўсё напой патрапіў на адзін з вінаробчых заводзікаў Беларусі, дзе з яго зрабілі чарговую партыю сурагатнай гарэлкі. У выніку дзялкі мелі някепскі дывідэнд. Дзесяткі тысяч долараў, якія павінны былі пайсці ў бюджэт у выглядзе акцызных падаткаў, яны паклалі сабе ў кішэнь.

Падобную афёру меліся зрабіць і дзве іншыя замежныя фірмы (маскоўская «Мір» і ўзбекская «Ювім»). Аднак слонімскія праваахоўныя органы разам з аддзелам падаткавых расследаванняў своечасова на іх выйшлі і арыштавалі 30 тон спірту на суму 60 тысяч долараў.

Акрамя таго высвятляецца, што на шылавіцкім спірце «пагрэлі рукі» не толькі жвавыя дзялкі, але сёе-тое перапала і некаторым слонімцам. Вось якую гісторыю расказаў мне жыхар з вуліцы Пушкіна. Калі праваахоўныя органы арыштавалі аўтацыстэрны са спіртам, то іх паставілі часова на тэрыторыі раённай падаткавай інспекцыі. Тымчасам адна бабка, якая жыве побач, вечарам заўважыла, што з краніку адной цыстэрны патрохі капае. Каб не прападаць задарма дабру, яна на ноч паставіла пад цыстэрну вядро. Раніцай вядро было поўнюткае, спірт нават выліваўся за краі. Калі машыны адганялі на вінзавод, бабка запыталася ў шафёраў: калі яны прыедуць наступным разам? Хлопцы толькі плячыма паціснулі. Сапраўды, адкуль яны маглі ведаць, чым закончыцца следства па іх і іншых фірмах, якія заключылі здзелкі з шылавіцкім спіртзаводам.

Дарэчы, за ўтойванне падатку на прыбытак на працягу двух апошніх гадоў саўгасу прадпрыемству прад'яўлены фінансавыя санкцыі на суму амаль 4 мільярды рублёў.

**Валодзя ЯНЧУК**

**Асоба** *Нашы землякі*

# Пра ікону Жыровіцкай Божай Маці і пра слонімскага магната, які Еўропу пакарыў



**У наступны аўторак, 20 траўня, будзе адзначацца штогадовае свята іконы (абраза) Жыровіцкай Божай Маці.**

Легенда сведчыць, што прыкладна ў 1470 годзе жыровіцкія пастушкі знайшлі на лясной грушы ззяючы абраз Божай Маці. Яны расказалі пра гэты цуд свайму гаспадару мясцоваму магнату Аляксандру Солтану. Ён успрыняў гэты выпадак як знак Божы і загадаў пабудаваць на тым святым месцы царкву. Так была заснавана сусветнавядомая хрысціянская святыня ў Жыровічах. Такім чынам увекавечыў сваё імя наш славуты зямляк, таленавіты дыпламат, рэлігійны дзеяч і заўзяты падарожнік Аляксандр Солтан. Ён першы са слонімцаў разведаў шляхі ў Еўропу і на Блізкі Усход.

20 красавіка 1467 года на сойме Вялікага княства Літоўскага ў Гродне Солтан атрымаў рэкамендацыйны ліст ад караля польскага, вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка, у якім яму даваўся дазвол на падарожжа. У гэтым лісце рэкамендавалася ўсім духоўным і свецкім асобам, князям, баярам, бургамістрам гарадоў Еўропы дапамагаць пілігрыму ў ягоным паломніцтве да святых месцаў.

Аляксандр Солтан наведаў Нямеччыну, Сіцылію і вясной 1468 года прыбыў у Рым. Там праваслаўны з Вялікага княства Літоўскага спаткаўся з папам Паўлам II, які прыняў яго «як любімага сына... які накіроўваецца па сваіх неадкладных справах у розныя краіны свету». Сам факт гэтай сустрэчы наводзіць на думку, што А. Солтан, апрача паломніцтва, мог мець нейкія тайныя даручэнні самога Казіміра Ягелончыка. Гаворачы сённяшняй тэрміналогіяй, слонімскі магнат выконваў дыпламатычна-разведвальную місію пад прыкрыццём паломніцтва ў святыя месцы. Але гэта толькі здагадкі.

У Іерусаліме Солтан прабыў да канца года. Стаўшы «Іерусалімскім рыцарам», ён наведаў Мілан, а потым праз Іспанскую Кастылію накіраваўся ў Партугалію. Наш зямляк быў асобай даволі цікавай і прывабнай, што і адлюстравалася ў яго характарыстыцы, якую яму даў кароль Партугаліі Альфонс Афрыканец. Ён пісаў пра Солтана як пра «смелага, моцнага рыцара, цудоўнага сваёй знешнасцю, дзеяннямі і словамі...»

У траўні 1469 года наш зямляк прыехаў у мяцежную французскую правінцыю Бургундзія, у якой тады валадарыў славуты Карл Смелы.

З Бургундзіі А. Солтан накіраваўся праз Ла-Манш у Англію. Англійскі кароль Эдуард IV таксама адзначыў заслугі падарожніка і узнагародзіў яго ордэнам Залатога Руна. Гэта была адна з найбольш ганаровых узнагарод у тагачаснай Еўропе.

Вось так паспяхова завяршылася падарожжа слонімскага магната Аляксандра Солтана па Еўропе і Азіі. Ён вярнуўся ў Жыровічы, якія яму падараваў сам кароль Казімір Ягелончык. Неўзабаве пасля яго вяртання з паломніцтва да хрысціянскіх святынь (1470) і адбыўся цуд: з'явіўся абраз Жыровіцкай Божай Маці.

**Сяргей ЁРШ**

Асоба *Нашы землякі*

# У паэта — юбілей

**Сёння аднаму са старэйшых паэтаў Беларусі Анатолю Іверсу спаўняецца 85 гадоў з дня нараджэння.**

...На вуліцы Дабрыяна ў Слоніме ў невялікім драўляным доме жыве беларускі паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско). Калі бывае вольны час, я еду да яго. Адчыняю знаёмыя веснічкі, міную дагледжаны надворак, у сенцах пахне бульбаю і сушанымі яблыкамі. З парогу мяне вітае шчырая Ніна Паўлаўна — сяброўка па жыцці і жонка паэта. Іван Дарафеевіч, як звычайна, сядзіць за сталом у сваім чысценькім пакойчыку і нешта піша...

На днях я зноў завітаў да Івана Дарафеевіча і Ніны Паўлаўны. Была нагода. У паэта — юбілей.

*«Пажаніліся мы летам 1945 года,* — расказвае Ніна Паўлаўна. — *Вось з таго часу і разам. А пазнаёміліся ў рэдакцыі слонімскай газеты «Вольная праца», дзе я працавала літработнікам. Мне ён тады вельмі спадабаўся. Раней у Слоніме я не бачыла і не сустракала прыгажэйшага за яго мужчыну. Хаця на першы погляд, здавалася, што Ваня звычайны, як і ўсе. Але ўвесь час, у адрозненні ад іншых, ён быў і застаўся паэтам. Вершы яго мне таксама падабаюцца. Я, напрыклад, як выйду зімою на вуліцу, заўсёды ўспамінаю ягоныя радкі:*

***Маразом траскучым па хвоях***
***Наступная прыйдзе зіма.***

*Асабіста мне муж прысвяціў толькі адзін верш «Развеяліся хмары».* Дарэчы, ён надрукаваны ў новым паэтычным зборніку «Травень», які літаральна на днях выйшаў з друку ў Слонімскай друкарні, якая з'яўляецца і фундатарам гэтай кніжкі.

У вершы, які прысвечаны Ніне Паўлаўне, ёсць такія радкі:

**Сяброўка трапілася мне**
**Не горшая, чым марыў.**
**І перастала ўжо цямнець,**
**Развеяліся хмары.**

Так, хмараў у жыцці паэта са Слоніма было шмат. Нарадзіўся ён у вёсцы Чамяры 15 траўня 1912 года. А праз два гады сям'я падалася ў бежанцы. Жылі ў Казанскай губерні, у Кіеве. Вярнуліся дамоў толькі ў 1918 годзе. Ды радасці было мала. Дома чакалі халодныя дні, крапіва ды лебяда. А праз год, пасля часовага знаходжання тут немцаў і бальшавікоў, амаль на дваццаць гадоў запанавалі палякі. Юнак рана пазнаёміўся з беларускай літаратурай, выдатнымі настаўнікамі ў Віленскай, Клецкай і Навагрудскай гімназіях, дзе ён вучыўся. Там пачаў пісаць вершы. У верасні 1939 года пад псеўданімам Анатоль Іверс выйшаў ягоны першы паэтычны зборнік «Песні на загонах». Кніжачка атрымалася невялікая, у ёй усяго 26 вершаў, якія напісаны ад душы.

У гады вайны Іван Міско быў адным з арганізатараў падпольнага антыфашысцкага руху, партызанам брыгады імя Ракасоўскага, якая дзейнічала на тэрыторыі Слонімскага раёна. У пасляваенны час працаваў у гарсавеце, у рэдакцыі райгазеты... Але дзе б ён не працаваў, заўсёды пісаў вершы, ніколі не цураўся матчынай мовы. *«Я заўсёды гаварыў на свёй мове,* — распавядае Анатоль Іверс. — *За гэта мяне называлі нацыяналістам альбо, у лепшым выпадку, «той, хто гаворыць па-беларуску». Мяне не арыштоўвалі, хоць дапытвалі больш чым паўсотні разоў. Двойчы звальнялі з працы за тое, што «не внушал политического доверия».*

Але паэт трываў і «шчасця спазнаў» у сваіх вершах. Таму плён даволі значны: шэсць кніг паэзіі, шматлікія артыкулы ў мясцовым і рэспубліканскім друку. Сёння ён шчыра радуецца выхаду «Газеты Слонімскай»: *«Я толькі вітаю гэту новую дэмакратычную і незалежную газету. Менавіта не залежнай ні ад якой партыі...»* Нават экспромтам падарыў газеце вось такія радкі:

***Мова плечы выпростае,***
***Хоць заслона жалезная.***
***Дык жывi, наша простая,***
***Ад народа залежная!***
***Са сваёю газетаю***
***Жыццё, працу наладзім мы.***
***Размяцём усе гэтыя***
***На шляху перакладзіны.***

А калектыў «Газеты Слонімскай», у сваю чаргу, жадае юбіляру здароўя, натхнення і шчасця. З 85-годзем Вас, Іван Дарафеевіч!

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Навіны

## «САВЕЦКІЯ» МАСТЫ ПЛАНУЮЦЬ ПАДЛЯЧЫЦЬ

**Відаць, у сярдзіне лета будзе зачынены праезд па мастах, што на вуліцы Савецкай.**

Як сказаў карэспандэнту газеты галоўны інжынер камунальнай гаспадаркі горада Яўген Пішч, у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня павінны распачацца работы па рэканструкцыі гэтых мастоў. Па папярэдніх падліках, на іх рамонт спатрэбіцца некалькі дзесяткаў мільярдаў рублёў. Мяркуецца, што сёлета да канца года будзе асвоена прыкладна 900 млн. рублёў. Рэканструяваць масты пагадзіліся спецыялісты Брэсцкага мостатрада N 58.

На які час зацягнецца рамонт старых мастоў — спадар Пішч не асмеліўся сказаць, спаслаўшыся на тое, што ўсё будзе залежыць ад фінансавання праекта. Тымчасам слонімцы змогуць патрапіць у другую частку горада праз адрамантаваныя масты, што на вуліцы Я.Купалы. Дарэчы, іх аднавілі тыя ж брэсцкія мостабудаўнікі.

**Анатоль МІРСКІ**

## ПАЛІГОН ДЛЯ СМЕЦЦЯ

**Слонімскія будаўнікі МПМК-164 пачалі карчаваць лес пад новую звалку для смецця і адыходаў.**

Месца выбралі ў адной дубраве, што паблізу вёскі Сынкавічы Зэльвенскага раёна (Гродзенскі напрамак). Новы палігон для смецця зойме каля 10 га плошчы і будзе знаходзіцца на адлегласці 5 км ад горада. Камунальнікі Слоніма лічаць, што калі не будзе праблемаў з фінансамі, то новая звалка пачне дзейнічаць ужо праз два гады.

Адзначым, што за год у нашым горадзе збіраецца рознага смецця, бытавых і вытворчых адыходаў 58 500 м³. Каб перавезці гэту гару смецця адным разам, спатрэбіцца каля 15 000 грузавікоў.

**Анатоль МІРСКІ**

## КНИГА ДЛЯ ТЕХ, КОМУ ТРУДНО

Геннадий Урбанович — известный в нашем городе врач-психотерапевт. Недавно он издал в Слонимской типографии свою книгу «Наедине с психотерапевтом : путь от отчаяния к надежде...». Она рассказывает много интересного о психотерапии супружеских конфликтов, о том, как родить и воспитать здорового ребенка, как сделать стресс безопасным. В книге также есть разделы по сексологии, вашей домашней аптечке и многое другое.

Издание книги Геннадия Урбановича финансировал Белорусский Фонд Сороса.

**Сергей ЧИГРИН**

Гісторыя

# Пуля прошла сквозь дверь

**53 года назад в лесу Волчьи норы, что рядом с деревней Окуниново, был убит один из руководителей антифашистского сопротивления Феоктист Миско, житель деревни Чемери.**

Его застрелила из пистолета радистка Михаила Аницика, бывшего первого секретаря Слонимского райкома партии (1943 — 1945 г.г.). Позже, в честь Аницика была названа одна из улиц города, а вот имя Феоктиста Миско предано забвению. Однако обо всем по порядку...

*Михаил Аницик*

*Феоктист Миско*

Феоктист Миско (подпольный псевдоним «Феликс») еще в юности принимал активное участие в антипольском национальном движении. В 1930 году, по обвинению в убийстве правокатора он был приговорен к 12-ти годам тюремного заключения. В 1941 году, после побега из печально известной тюрьмы, что в польском городе Грудзёнц, он вернулся домой. Как бывший политкаторжанин, Феоктист пользовался большим авторитетом среди молодежи, которая и стала основной силой антифашистского сопротивления. Миско объединил отдельные антифашистские группы в единую подпольную организацию.

В ноябре 1943 года организацию постиг провал — часть патриотов была арестована, другие ушли в партизанские отряды. В отряд имени Дзержинского, который дислоцировался в лесу Волчьи норы, пришли руководители подполья Ф.Миско и И.Миско (поэт А.Иверс).

В конце 1943 года партизанским движением на Слонимщине руководил секретарь подпольного райкома компартии, уполномоченный ЦК КПБ и Белорусского штаба партизанского движения Михаил Аницик. Он прибыл из-за линии фронта летом 1943 г. вместе с двумя радистками. Аницик подчинил себе и антифашистское подполье.

В феврале 1944 года в бригадной землянке М. Аницик проводил совещание. Среди двадцати присутствовавших были и Феоктист с Иваном. Про разыгравшуюся там трагедию вспоминает Иван Дорофеевич: *«Мы стояли недалеко от окошка у дверного проема. Вдруг за дверью раздался выстрел и Феоктист начал падать на меня. Я и еще несколько парней подхватили его на руки. Через минут пять он умер...»*

Выяснилось, что из пистолета стреляла радистка Аницика, Евгения Волохонович («Ольга»). Пуля прошла сквозь дверь у самого окошка. Партизаны схватили радистку и хотели с ней расправиться на месте, но Аницик не позволил. Он приказал ее посадить в отдельную землянку и выставил охрану.

Следствия тогда не проводили. Аницик лично вынес вердикт, что это был «случайный» выстрел. Убийцу-радистку отправили с группой партизан на запад, где она якобы погибла.

Слонимская антифашистская организация и ее руководитель Ф. Миско пользовались популярностью в народе. Некоторые, кто не верил в «случайный» выстрел, говорили, что *«после войны антифашистский руководитель мог создать конкуренцию партийному секретарю».*

Аницику пришлось бы с ним делить и боевые заслуги, и влиятельные посты в органах власти. Не исключено, что Аницик руками своей радистки и расправился с Феоктистом.

**Сергей ЁРШ**

Здарэнні

## ПАЖАР У СІНАГОЗЕ

**Нядаўна ў сінагозе, змураванай у 1642 годзе, якая знаходзіцца побач з гарадскім рынкам, здарыўся пажар.**

Там загарэлася драўляная падлога. Агонь выявілі выпадкова, але своечасова. Таму пажарныя здолелі патушыць полымя даволі хутка.

Старшы інжынер дзяржаўнага пажарнага нагляду горада Уладзімір Строк, які прысутнічаў на месцы здарэння, заявіў карэспандэнту, што агонь, магчыма, запалілі валацугі альбо падлеткі. Яны трапляюць у будынак праз незабітыя вокны і там, каб сагрэцца, распальваюць вогнішчы. Ён таксама сказаў, што гэта ўжо не першы пажар, які яны тушаць у сінагозе. Уладзімір Строк лічыць, што, калі не замацаваць як належыць дзверы і вокны, то можа так здарыцца, што ад яго нічога не застанецца і тады не будзе што рэстаўраваць.

**Сяргей ЁРШ**

Горад *11 радыётаксавак для слонімцаў*

# Не проста паездка, а прыемны ваяж

Тэл. 5-19-52

**Слова «ваяж» запазычана з французскай мовы і азначае «падарожжа, паездка, вандроўка». Менавіта такую назву выбраў сабе калектыў прыватных радыётаксі Слоніма.**

Роўна год таму некалькі жыхароў горада заснавалі прыватнае прадпрыемства па перавозцы пасажыраў у любы куток Беларусі, а таксамаў іншыя краіны. Узначаліў яго прадпрымальнік Міхаіл Кабанчанка. Паслугамі радыётаксі «Ваяж» карыстаюцца не толькі жыхары Слоніма, але і раёна. На сённяшні дзень «Ваяж» налічвае адзінаццаць аўтамашын з вопытнымі вадзіцелямі. Каардынуе іх работу дыспетчар Таццяна. Так яна прадстаўляецца кліентам, так называлі і мне.

Па яе словах, радыётаксі працуе кругласутачна. Днём больш заказаў бывае на выхадныя і на святы, а ноччу, як правіла, перад адпраўленнем і прыбыццём цягнікоў.

*«Пасажыры таксама бываюць розныя,* — гаворыць Таццяна. — *Вось, напрыклад, нядаўна ў тры гадзіны ночы тэрмінова выклікалі таксі. Пасажыр з'ездзіў у Баранавічы і назад проста так, не выходзячы нават з машыны. Але гэта справа кліента, куды ехаць. Наша задача — культурна і хутка яго абслужыць»,* — падкрэсліла дыспетчар радыётаксі «Ваяж».

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**Асоба** *Нашы землякі*

# Акцёр, які вырас на Шчары

Калі былы выпускнік слонімскай СШ N10 Уладзімір Антонік у 1969 годзе паступаў у Маскоўскі інстытут кінематаграфіі (ВГИК), конкурс быў 300 чалавек на месца. Аднак яму ўсміхнулася ўдача, і ён быў залічаны ў майстэрню рэжысёра Таланкіна. Яго аднакурснікамі былі цяпер ужо вядомыя майстры кіно Карэн Шахназараў, Радзівон Нахапетаў і іншыя.

Дэбютаваў Уладзімір у дзіцячым фільме-серыяле «Бронзавая птушка», затым былі «Корцік», «Апошняе лета», дзе іграў ролю Мішы Палякова.

*«Увогуле ў маім рэпертуары было шмат роляў камсамольскіх і партыйных важакоў,*— кажа Антонік. —*Напэўна, гэта звязана з маёй знешнасцю. Хаця, як ні дзіўна, я больш цягнуўся да адмоўных персанажаў. Пасля дэманстрацыі па тэлебачанні карціны «Белыя адзенні», дзе я выканаў ролю стукача Краснова, маці нават заплакала і сказала бацьку: «Госпадзі, няўжо гэта мой сын такі». Сапраўды, Красноў атрымаўся гідкім чалавекам. Мне здаецца, што гэтая роля мне ўдалася. Дарэчы, фільм «Белыя адзенні» быў прадстаўлены на дзяржаўную прэмію, але пачалася перабудова, і кіраўніцтву ўжо было не да ўзнагарод»,* — адзначыў акцёр.

**— Уладзімір, а наколькі для цябе значная твая апошняя работа?**

— У карціне Яўгена Мацвеева «Кахаць па-руску» я іграў ролю вашага калегі рэдактара мясцовай газеты. Гэта работа невялікая, але плануецца, што з цягам часу фільм стане тэлесерыялам з тымі ж самымі персанажамі. Магчыма, і роля мая стане больш значнай. Дарэчы, у Мацвеева я вельмі люблю здымацца. Нават, калі трэба будзе, я ў ягонай карціне тэлеграфны слуп сыграю. Ведаеш, гэтаму чалавеку ўжо 75 гадоў, а ён мае велізарную энергію. Падчас здымак пад вечар маладыя акцёры ўжо стомлены і засынаюць нахаду, а ён, як той арол, па здымачнай пляцоўцы лётае.

**— Як ты лічыш, якая твая роля найбольш удалая?**

— Мусіць, усю ж наблага ў мяне атрымаўся тып Краснова ў стужцы «Белыя адзенні». Някепска адгукнулася крытыка пра фільм «Дзікае поле», дзе я выканаў галоўную ролю атамана Мікіты. Дый пасля гістарычнай карціны «Русь спрадвечная» атрымаў шмат пісьмаў. Лічу, што ўвогуле гістарычныя фільмы мы здымаем вельмі мала. А яны патрэбныя для падлеткаў, для выхавання ў іх патрыятызму, дабрыні. Калі мы раслі і выхоўваліся на казках пра Ілію Мурамца, то нашыя дзеці цяпер фарміруюцца на вобразах суперьбайцоў, нейкіх монстраў. Якая пасля гэтага ў іх душах можа застацца апора? Трэба прызнаць, што сёння кінематограф у Расіі амаль знішчаны, а ў Беларусі тым больш. А прычына адна — няма грошай.

**— Цікава, а як склаліся твае адносіны з тэатрам?**

— Аніяк. У тэатры я сыграў некалькі роляў. Раней, каб працаваць у тэатры, артыст павінен быў быць залічаны ў штат, а гэта яго шмат да чаго абавязвае. А я рана ажаніўся, трэба было карміць сям'ю. Тэатр жа не можа забяспечыць артыста матэрыяльна.

**— Раскажы, калі ласка, а як склалася ў былога слонімца асабістае жыццё ў Маскве?**

— Дзякуй Богу, усё добра. У мяне адна жонка. У наступным годзе адзначым сярэбранае вяселле. Маем двух дзяцей. Дачка Ганна закончыла інстытут (ВГИК), сын Яўген — школьнік. Летась ён амаль год жыў і вучыўся ў Бельгіі. Туды ён трапіў пасля таго, як удала напісаў сачыненне на англійскай мове. Але паколькі Яўген у гэтым годзе заканчвае 9 класаў і яму трэба здаваць экзамены, мы забралі яго дамоў. Лічу, што як чалавек ён павінен сфарміравацца на Радзіме. Я не супраць чужых моваў. Але, калі па радыё і тэлебачанні круцяць у асноўным замежныя стужкі, спяваюць толькі па-англійску, то ў мяне гэта міжволі выклікае абурэнне.

Вось нядаўна я быў у Грэцыі. Там я ні па радыё, ні па тэлебачанні, ні ў рэстаране ніразу не пачуў англійскай песні. Усюды гучыць толькі грэцкая мова. Гэтая краіна нічога, акрамя павагі, не заслугоўвае.

**— А якія пачуцці ў цябе выклікае доўгае раставанне са Слонімам?**

— Уся мая душа тут, у Слоніме. Нават сын, які нарадзіўся ў Маскве, лічыць сваёй радзімай Беларусь. Я стараюся два разы на год прыехаць у Слонім і абавязкова яго бяру з сабою. Мы нідзе так добра не адпачываем, як тут, у бацькоў. Для мяне Слонім — гэта вялікая энергетычная падпітка. Можа, тут зямля такая незвычайная, а можа — паветра. Не ведаю. Я вырас на Шчары. У дзяцінстве памятаю, як на дамбе ставілі дошку на вышыні больш двух метраў і ныралі галавой уніз у рэчку. А цяпер Шчара так паплытчэла...

**— Уладзімір, а вось якія твае адносіны да саюза Расіі і Беларусі?**

— Я ніколі не аддзяляў сябе ад рускіх. Але адзінае, што мяне насцярожвае, гэта тое, што ўсё рашаюць без мяне. Спачатку СССР раскідалі, мяне не папыталіся, цяпер яго ствараюць, і зноў без маёй думкі. Гэта тое ж самае, калі ЗАГС, не пытаючыся ў людзей, вырашыў іх развесці. Потым у ЗАГСе раптам адумаліся, перагулялі і зноў зарэгістравалі шлюб. Я б на месцы тых людзей задумаўся: чаму гэта маім лёсам нехта так вольна распараджаецца.

**— Дзякуй за інтэрв'ю.**

— Вельмі рады, калі адказаў на твае пытанні.

**В.В.**



*На здымку: кадр з фільма «Дагары нагамі» (У.Антонік злева).*

**РЭКЛАМА**



**ЛЕС – НАШЕ ДОСТОЯНИЕ, БЕРЕЧЬ ЕГО – ДОЛГ И ОБЯЗАННОСТЬ КАЖДОГО.**

**Друзья! Лес в жизни человека имеет большое значение. Он смягчает климат, сохраняет полноводность рек, очищает воздух, служит местом отдыха, а также — это источник сырья для промышленности.**

**Однако у леса есть страшный враг — пожары. Поэтому, находясь в лесу, будьте осторожны с огнём: не бросайте горящих спичек и окурков; не разводите костров в хвойных насаждениях и на торфяниках; не выжигайте в лесу сухую траву.**

**Заметив в лесу пожар, постарайтесь его погасить или немедленно сообщите о нём работникам лесного хозяйства, в пожарную часть, милицию или сельский Совет.**

**Слонимский лесхоз**



**НАШ КАЛЯНДАР**

**1 ТРАЎНЯ** споўнілася 66 гадоў нашаму земляку – паэту, доктару філалагічных навук, прафесару, члену-карэспандэнту Акадэміі Навук Беларусі Алегу Лойку. У гэты ж дзень святкаваў сваё 49-годдзе беларускі жывапісец Мікалай Бушчык, ураджэнец вёскі Дзеражная.

**3 ТРАЎНЯ 1791 ГОДА**, з прыняццем Канстытуцыі Рэчы Паспалітай Двух Народаў, Слоніму было вернута самакіраванне. Неабмежаваная ўлада старосты слонімскага М.К.Агінскага ўжо кантралявалася законам.

**6 ТРАЎНЯ** на Радаўніцу споўнілася б 69 гадоў Васілю Крайняму (1928–1944), удзельніку партызанскага руху на Слонімшчыне ў гады Другой сусветнай вайны, які загінуў у барацьбе з нямецкімі акупантамі. Імя юнага героя ўвекавечана ў назове адной з цэнтральных вуліц нашага горада.

**13 ТРАЎНЯ 1558 ГОДА** кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Аўгуст сваім прывілеем (указам) устанавіў у Слоніме два двухтыднёвыя кірмашы штогод: на свята Зыходу Святога Духа і на Каляды. Гэтая падзея спрыяла не толькі развіццю гандлю і прамысловасці, але і росту палітычнага значэння горада.

**18 ТРАЎНЯ 1905 ГОДА** на запалкавай фабрыцы Дубінбаўма ў Слоніме адбылася забастоўка рабочых, якія патрабавалі скарачэння рабочага дня да 10 гадзін і павышэння аплаты працы на 20-30 %. Страйк быў падтрыманы іншымі працоўнымі горада. Усяго ў забастоўцы прыняло ўдзел каля 350 чалавек.

**24 ТРАЎНЯ 1946 ГОДА** Слонімскі краязнаўчы музей быў грунтоўна ператорованы ў Баранавіцкі абласны гісторыка-краязнаўчы музей.

**25 ТРАЎНЯ 1881 ГОДА** Слонім ахапіў вялізны пажар. Горад гарэў цэлы дзень(!). Агонь знішчыў 12 вуліц (Ружанскую, Жыровіцкую, Школьны Двор, Гандлёвую, Рыбацкую, Студэнцкую і інш.). Згарэла 576 дамоў і архіў гарадской управы. Агульная шкода ад пажару склала 845 658 рублёў.

**26 ТРАЎНЯ 1522 ГОДА** староста слонімскі Ян Мікалай Радзівіл выдаў «Уставу павіннасці мяшчан слонімскіх».

**27 ТРАЎНЯ 1831 ГОДА** адбылася эвакуацыя рускіх вайскоўцаў і чыноўнікаў з горада на ўсход. Пэўны час у Слоніме гаспадарылі паўстанцы генерала Хлапоўскага, якія змагаліся за незалежную Рэч Паспалітую Двух Народаў.

**31 ТРАЎНЯ 1508 ГОДА**, падчас вайны Рэчы Паспалітай (у склад якой уваходзіла Беларусь) з Маскоўскай дзяржавай, праездам Слонім наведаў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II, які ехаў у Смаленск.

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**

**Футбол** *Чарговае паражэнне*

# У небяспечнай зоне

**Рэдакцыя «Газеты Слонімскай» абвяшчае конкурс на «Лепшага ігрока» па выніках сезона. Лепшага ігрока «Камунальніка» чакае прыз — ВІДЭАМАГНІТАФОН.**

У мінулы панядзелак (12 траўня) «Камунальнік» гуляў з мінскім «Тарпедам».

Усе спадзяванні заўзятараў убачыць цікавую і вострую гульню аказаліся марнымі. Першы тайм прайшоў даволі млява. І хаця ў нашых футбалістаў было шмат момантаў, каб «размачыць» брамку гасцей, на 49 хвіліне мячык пабываў у варотах слонімцаў. Але ўжо праз 9 хвілін Татарашвілі гожым ударам галавою выраўняў лік. Увогуле ў другім перыядзе футбалісты сталі больш актыўнымі. З нашага боку някепскую гульню паказалі капітан каманды Аляксей Баль, Анатоль Дзегель, Сяргей Урублеўскі. Тым не менш фартуна была на баку «Тарпеда». На 82 хвіліне футбаліст мінскага клуба Атлетаў яшчэ раз прымусіў Віктара Трусілу дастаць мячык з сеткі. Аднак трэба заўважыць, што Віктар на працягу ўсяго матча неаднаразова выратоўваў каманду.

Да канца гульні слонімцы імкнуліся перахапіць ініцыятыву, атакі сталі больш напорыстымі, але было запозна. Фінальны свісток суддзі спыніў контратаку «Камунальніка» якраз каля штрафной «Тарпеда».

Такім чынам — 1:2 на карысць гасцей, а «Камунальнік» займае небяспечнае 12-е месца.

**Яўген ЛІШЫК**

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЛЯ 6-ГА ТУРА НА 12 ТРАЎНЯ 1997 Г.**

| Каманды | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Лакаматыў-96 | 6 | 5 | 1 | 0 | 7-2 | 16 |
| Белшына | 6 | 5 | 0 | 1 | 17-6 | 15 |
| Дынама (Мн) | 6 | 4 | 1 | 1 | 15-6 | 13 |
| Днепр | 6 | 4 | 1 | 1 | 11-5 | 13 |
| МВКЦ | 6 | 3 | 3 | 0 | 15-3 | 12 |
| Дынама-93 | 5 | 3 | 1 | 1 | 10-3 | 10 |
| Атака | 6 | 2 | 3 | 1 | 6-6 | 9 |
| Нафтан-Дэвон | 6 | 2 | 2 | 2 | 6-6 | 8 |
| Нёман | 5 | 2 | 1 | 2 | 6-4 | 7 |
| Дынама (Бр) | 6 | 2 | 1 | 3 | 7-10 | 7 |
| Тарпеда | 6 | 2 | 0 | 4 | 7-15 | 6 |
| **Камунальнік** | **6** | **1** | **1** | **4** | **3-9** | **4** |
| Трансмаш | 6 | 1 | 1 | 4 | 2-10 | 4 |
| Тарпеда-Кадзіна | 6 | 1 | 1 | 4 | 4-12 | 4 |
| ФК Маладзечна | 6 | 0 | 2 | 4 | 3-9 | 2 |
| Шахцёр | 6 | 0 | 1 | 5 | 1-14 | 1 |

Газета Слонімская
Рэг. 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук
Адрас рэдакцыі: 231800, Слонім, вул. Брэсцкая, 109-1-12. Тэлефон 5-24-12
Падпісана да друку 14 траўня 1997 Час падпісання 8:00
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, вул. Савецкая, 80
Наклад 3.000 экз. Заказ N 1145 Падпісны індэкс 64042